Народная Воля
11 МАЯ 2004 г.

ПУЛЬС

## Тэсціруюць па жаданні

Днямі ў Беларусі прайшло цэнтралізаванае тэсціраванне па беларускай мове. Для гэтых мэтаў у 23 ВНУ краіны — цэнтрах правядзення тэсціравання было выдзелена больш чым 700 аўдыторый.

Нагадаем, што ўказ аб дадатковым правядзенні ў 2004 годзе тэсціравання па рускай і беларускай мовах падпісаў міністр адукацыі Беларусі Аляксандр Радзькоў.

Сёлета платнае цэнтралізаванае тэсціраванне па васьмі прадметах пачалося 3 красавіка. У тэсціраванні па англійскай і нямецкай мовах узялі ўдзел 17.178 чалавек, па хіміі — 10.269 чалавек, па фізіцы 15.704 чалавекі, па біялогіі — 16.673 чалавекі, па матэматыцы — 38.199 чалавек, па рускай мове — каля 40 тысяч чалавек. У тэсціраванні па беларускай мове ўзялі ўдзел больш за 41 тысячу жадаючых.

Абавязковае цэнтралізаванае тэсціраванне па рускай і беларускай мовах на бюджэтнай аснове пройдзе, як і планавалася: 30 мая — па беларускай мове, 6 чэрвеня — па рускай. Гэтае выпрабаванне тычыцца толькі тых абітурыентаў, якія плануюць паступаць на дзённае аддзяленне ВНУ. Такім чынам, абітурыентам будзе дадзена права выбару аднаго з сертыфікатаў аб праходжанні моўнага цэнтралізаванага тэсціравання для прад'яўлення ў прыёмныя камісіі ВНУ.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## У Брэсцкай крэпасці абясшкодзілі мінамётную міну

Перад пачаткам шматлюднага мітынгу ў мемарыяльным комплексе "Брэсцкая крэпасць-герой" байцы групы размініравання асобнага батальёна міліцыі УУС абясшкодзілі мінамётную міну часоў Вялікай Айчыннай вайны, знойдзеную недалёка ад цытадэлі.

82-міліметровая міна, паведаміў камандзір батальёна Анатоль Барэйка, была знойдзена ранкам рыбакамі на рацэ Мухавец ля крэпасці. Сапёры хутка прыбылі да месца знаходкі, перанеслі боепрыпас у спецыяльны аўтамабіль і затым знішчылі яго ў бяспечным месцы. Так што прысутныя на мітынгу, больш за 10 тыс. гараджан, правялі мерапрыемства ў спакойнай абстаноўцы.

Гэты год, зазначыў Анатоль Барэйка, як ніколі "ўраджайны" на ваенныя знаходкі. Групе размініравання ўжо больш за 60 разоў даводзілася выязджаць на трывожныя сігналы жыхароў вобласці. Усяго з пачатку года было абясшкоджана больш за 100 розных боепрыпасаў.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

## Маскоўская гастроль «Беларускіх Песняроў»

***Ансамбль «Беларускія Песняры» 15 і 16 мая выступіць з канцэртамі ў Крамлёўскім палацы з'ездаў.***

Да гэтых канцэртаў, якім прадзюсеры вырашылі надаць характар юбілейных, ансамбль падрыхтаваў новы альбом. Ён атрымаў назву ***"35+5"*** (35 гадоў самім "Песнярам" ды яшчэ 5 — гэтаму ансамблю). Рэпертуар альбома складаюць 16 песень, усе яны выконваюцца на беларускай мове. У асноўным гэта творы, якія раней не выдаваліся і амаль не гучалі на канцэртах.

Каб не выклікаць негатыўныя эмоцыі ў пэўных людзей, у альбом вырашана не ўключаць ніводнай песні, аўтарства якіх належыць **Уладзіміру Мулявіну**.

**Евеліна КРУПЕНЬКІНА.**

## «Барабанны экстаз» у Мінску

Сёння, 11 мая а 18-й гадзіне ў краме "Містэрыя гуку" (вул. Няміга, 12) адбудзецца прэзентацыя новага альбома гурта "Drum Ecstasy" — аднаго з самых вядомых прадстаўнікоў мінскага музычнага андэрграўнда. Музыканты "Drum Ecstasy" сустрэнуцца з паклоннікамі і прэсай.

Нягледзячы на больш чым 10-гадовую гісторыю калектыву, члены гурта лічаць гэты альбом першым сур'ёзным запісам у сваёй дыскаграфіі. "Дагэтуль мы рабілі нейкія запісы, але іх праблема была ў якасці гуку і перадачы жывога характару нашай музыкі. Дасягнуць гэтага ўдалося толькі цяпер", — сцвярджае Філіп Чмыр, лідэр унікальнага па беларускіх мерках калектыву, які складаецца з трох барабаншчыкаў і бас-гітарыста.

Альбом, на якім значыцца толькі назва гурта, быў запісаны на мінскай студыі "Селах" — тамсама, дзе і новы альбом "Ляпіса Трубяцкога" "Залатыя яйкі". Дыск, па сутнасці, з'яўляецца справаздачай за ўсе 10 гадоў існавання калектыву.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

ТАК ДУМАЮ

## Незалежнасць — наперадзе ўсяго

Ужо ў каторы раз расійскі дзеяч Павел Барадзін заяўляе, што канстытуцыйны акт Саюзнай дзяржавы ўжо гатовы, трэба толькі ў Беларусі правесці рэферэндум і прыняць яго. Але ж дагавор аб стварэнні Саюзнай дзяржавы парушае Канстытуцыю нашай краіны, якая сцвярджае незалежнасць дзяржавы як недатыкальную каштоўнасць.

Нам, беларусам, трэба зараз шмат намаганняў, каб вярнуць сабе гістарычную памяць, не быць манкуртамі і захаваць незалежнасць, за якую вякамі змагаліся нашы продкі. Пагроза страціць гэтую найвялікшую каштоўнасць навісла чорнай хмарай. Тым болей што да выбараў новых дэпутатаў-палатнікаў улады могуць "прычапіць" той самы, любы сэрцу нецярплівых "саюзнікаў", рэферэндум па прыняцці Канстытуцыйнага акта. А гэта — як ні называй — прывядзе нас да захопу Расіяй, згубы надзей на лепшую будучыню.

Лічу, што калі так будзе, то на тыя восеньскія выбары наогул лепш не хадзіць — навошта ўзаконіваць, легітымізаваць тое, што можа абярнуцца новымі бедамі для дзяцей, унукаў і праўнукаў.

**Вольга КАНАНОВІЧ, мінчанка.**

КОМПЕТЕНТНОЕ МНЕНИЕ

# Слово о «Снове»,

## или Еще раз о белорусском селе и его руководителях

В одной очень уважаемой негосударственной газете недавно прочитал материал о знаменитом несвижском агрокомбинате "Снов". Выражаясь привычным журналистским языком, скажу: все написанное действительно имело место. Знаю это хозяйство не понаслышке. Возглавляя в 80-е годы соседний Клецкий район, работая затем в ЦК КПБ, имел четкое представление о том, что способствовало успехам колхоза имени Калинина (так тогда назывался нынешний агрокомбинат "Снов").

Действительно, государство вложило немало в это хозяйство. Действительно, немало помогал председателю колхоза, Герою Социалистического Труда Якову Алексанкину его брат Александр, занимавший высокие должности в правительстве России.

Но это только часть истины, проливающая свет на причины нынешнего процветания агрокомбината "Снов". Щедрая рука государства одаривала капитальными вложениями тогда многих. И в объемах не меньших, чем несвижан. Но далеко не все могут похвастаться сегодня уровнем развития, показателями, подобными или хотя бы сравнимыми со "Сновом".

Так в чем все-таки истинная причина поучительного взлета, я бы сказал, феномена агрокомбината? Она проста: у руля коллектива более 15 лет находится в полном смысле слова выдающийся руководитель — **Михаил Александрович КАРЧМИТ.** Личность незаурядная, воплотившая в себе множество и профессиональных, и чисто человеческих достоинств. Скажу больше. Именно Карчмит, на мой взгляд, олицетворяет собой высочайший и, увы, до конца не реализованный, потенциал современного белорусского руководителя. Его пример показывает, что не оскудела еще наша земля не только на высокие урожаи, но и на масштабных, талантливых руководителей, которые способны прославить Отчизну, сделать ее процветающей и состоятельной, способны на большие, серьезные дела даже в условиях, которые трудно назвать благоприятными.

Принял Карчмит колхоз имени Калинина в конце 80-х годов прошлого столетия, когда лучшие годы хозяйства были позади. Развернуться было где и было с чем: Яков Алексанкин принадлежал к числу тех руководителей старой закалки, которые знали цену рублю. Таких рублей было припасено ни много ни мало — целых 17 миллионов.

Уже тогда Михаил Александрович мыслил вполне рыночными категориями: деньги должны работать, а не лежать на счетах. Он словно предчувствовал финансовый обвал 1991 года, превративший вмиг в бумажную труху солидные накопления многих. Многих, но не "Снова". К тому времени практически все миллионы Карчмит вложил в дело. Те, кто помнит советские времена, могут по-достоинству оценить совершенное им. Освоить в течение нескольких лет в условиях тотального дефицита материальных ресурсов 17 миллионов рублей — из разряда невероятного. Забавно вспомнить сейчас, но кипучая деятельность руководителя едва не окончилась для него плачевно. На одном из отчетно-выборных собраний колхозники даже поставили вопрос о его переизбрании. Дескать, Алексанкин всю жизнь копил, а этот за несколько лет все растратил.

Но те советские рубли потрачены были не зря. Они материализовались в реконструированные свинокомплекс и птицеферму, коровники и комбикормовый завод, мехдвор и т. д. А самое главное — была создана собственная производственная база переработки молока и мяса. В чем у Карчмита нашло выражение одно из основных качеств любого по-настоящему выдающегося руководителя — умение предвидеть. Именно переработка явилась в "Снове" своеобразным монетным двором, позволившем оставлять на нужды развития хозяйства приличную дельту между безобразно низкими закупочными ценами на молоко и мясо и довольно высокими — на конечную продукцию, полученную в результате процессинга. В то время как диспаритет цен на промышленную и сельскохозяйственную продукцию как следствие порочной аграрной политики государства, подобно гигантскому пылесосу, высасывал жизненные соки, превращал подавляющее большинство сельскохозяйственных предприятий в банкротов. Добавлю: столь же успешно превращает и сегодня.

Михаил Карчмит обладает еще одним редким качеством — способностью расти и постоянно развиваться. Практически все новейшие мировые технологии в птицеводстве, свиноводстве, производстве молока, зерна, сахарной свеклы начали свой путь по земле белорусской со "Снова". Ну и, безусловно, не состоялся бы Михаил Александрович как первоклассный управленец, менеджер европейского уровня, если бы замыкал все на себе, не доверял своим подчиненным и не давал им возможности действовать самостоятельно.

Все это в совокупности и обусловило превращение агрокомбината "Снов" в подлинного и безусловного флагмана сельскохозяйственного производства нашей страны. И очень жаль, когда авторы публикаций, рассказывая об агрокомбинате, порой даже забывают упомянуть фамилию нашего выдающегося современника — М. Карчмита. Человека, которым Беларусь и ее народ вправе гордиться, так, как он гордится своими славными поэтами Н. Гилевичем и Г. Буравкиным, музыкантом М. Финбергом, певцом Я. Евдокимовым, скульптором И. Мисько, художником А. Марочкиным, ученым Р. Горецким и многими-многими другими.

*Михаилу Александровичу КАРЧМИТУ есть чем гордиться...*

Не знаю, чем руководствуются авторы таких газетных материалов. Но допускаю — в том числе и нежеланием признавать любой позитив в нынешней аграрной Беларуси, который автоматически заносился бы в актив действующей власти.

На мой взгляд, нет ничего глупее и вреднее такого подхода. Повторяю, на Михаила Карчмита, других выдающихся руководителей, на ученых, музыкантов, спортсменов, на их заслуги и талант у нынешних властей, как бы они не стремились показать, нет и не может быть исключительного права пользования. Они принадлежат всему белорусскому народу, свыше 60 процентов которого в той или иной степени отказывают сегодня этой самой власти в доверии.

Скажу больше, возвращаясь опять ко "Снову" и Карчмиту. Их успехи стали возможны как раз-таки не благодаря нынешней аграрной политике, а вопреки ей. Будь по-другому, число таких агрокомбинатов сегодня исчислялось не единицами, а сотнями, относительно крепко стояли бы на ногах не 10 процентов хозяйств, а 90. Будь по-другому, не работали бы с убытками 70 процентов сельскохозяйственных предприятий (по официальной статистике) и отрасль в целом вот уже пятый год подряд. Нынешнее состояние дел с экономикой села таково, что впору ставить вопрос не о продовольственной безопасности, а о национальной угрозе, которая от нее исходит. По этой причине лезут глаза на лоб у наших граждан, раскрываются рты у наших соседей, когда они видят в магазинах ценники на наши продукты. Такова цена превращения сельского хозяйства страны в условиях командно-административной системы из экономической в идеологическую отрасль, обрекшая ее на потерю конкурентоспособности и эффективности. Одним словом, если клянутся о вас чрезмерно заботиться, значит, имейте в виду, будут нещадно грабить. В нашем случае и село, и население страны в целом.

Нежелание признавать и вводить институт частной собственности, в том числе и на землю, предоставлять крестьянам экономическую свободу (поскольку всякая экономическая свобода неизбежно влечет за собой свободу политическую), попытки решить проблему путем присоединения добитых хозяйств к промышленным предприятиям, передачи их фермерам и предпринимателям (чаще всего — вопреки желанию последних) заводят отрасль в окончательный тупик. Можно прямо заявить — подъем, возрождение села станут возможны при иной, ответственной власти. И это время уже не за горами.

А пока ни в коем случае не следует забывать о тех, кто и в нынешнее безвременье, чаще всего на своем голом энтузиазме, фанатизме, держат на своих плечах огромные коллективы. Ведь в социальном и материальном плане сельский руководитель практически мало чем отличается от рядового механизатора или доярки и целиком зависит от местных вертикальщиков, их каприза, среди которых нередко сегодня попадаются откровенные самодуры.

Следует поклониться низко в пояс и Карчмиту, и Кремко, и Густырю, и Яковчику, и Скакуну, и Бичу, и Блохину, и Скрундю, и Демидчику, и Надирашвили, и Шрубу, и Парфианович, и многим другим за их подвижничество, высокую гражданскую и человеческую ответственность. Надо понимать состояние многих из этих людей, прекрасно отдающих себе отчет, в какой двусмысленной ситуации они пребывают. Один из них с горечью в голосе как-то признался мне: *"Такие, как я, преступники. Обеспечив высокий уровень производства, мы создаем иллюзию и даем властям повод утверждать, что так работать могут все. Но в том-то и дело, что не могут, не будут и не станут. Как не делали этого все годы советской власти. И только экономическая свобода, собственность позволят пробудить экономический интерес и дать шанс белорусскому селу на возрождение. Но для этого нужна политическая воля. У нынешней власти ее нет и не будет".*

Смею утверждать, что достаточно хорошо знаю руководителей на селе и их настроения. Горжусь тем, что со многими из них меня связывают близкие человеческие отношения. Сельские руководители — люди необыкновенные, уникальные. Они сегодня едва ли не единственные, кто истово, часто почти задаром, изо всех сил сохраняют, берегут село, сельский уклад жизни, держат на своих плечах не только производство, но и десятки, сотни людей, оставаясь при этом бесправными придатками командно — административной системы. Которая хочет — казнит, хочет — милует, хочет — посадит в тюрьму, хочет — вытрет ноги и вышвырнет, лишая средств к существованию и обрекая на нищету и прозябание. Примеров тому — немало. *(То же самое, кстати, можно сказать и о руководителях промышленных предприятий).* Давайте не будем забывать об их подвижничестве сегодня, чтобы завтра в вольной, новой Беларуси восстановить справедливость и вернуть то, что принадлежит им по праву, — быть подлинными, настоящими хозяевами, хозяевами производства и земли, а значит, и хозяевами своей судьбы. Только в этом случае можно обеспечить достойное место в жизни, почет, признание и уважение к тем, без кого наша страна, наша Беларусь не станет по-настоящему сильной и процветающей.

**Александр ЯРОШУК,**
**президент Белорусского конгресса демократических профсоюзов.**

ФЕЛЬЕТОН

## Крыўдна!

У нашым грамадстве самая занядбаная праслойка якая? Пенсіянеры? Дзеці? Дзе там! Мы — алкаголікі, людзі, якія даюць у бюджэт палову грошай. Гэта толькі недасведчанаму чалавеку здаецца, што жыццё наша лёгкае і бесклапотнае. Ого! Мы ж спім толькі да поўначы, а з першымі пеўнямі пачынаем думаць, дзе ўзяць грошай, каб купіць пляшку і папоўніць дзяржаўную казну. Мы недаядаем, ходзім у падраных чаравіках, данашваем вопратку з чужога пляча. І ўсё дзеля таго, каб настаўнікі і дактары маглі своечасова атрымліваць зарплату, каб малыя ў дзіцячых садках мелі што есці.

А якая падзяка? Аднойчы перад Новым годам амаль што ўсім давалі якія-ніякія грошы: каму прэзідэнцкія, каму аванс. Толькі нам — нічога!

Як я прыкіну, то ў нашай краіне вельмі шмат вялікіх святаў: і дзень рыбака, і дзень фізкультурніка, і дзень паляўнічага і яшчэ невядома якія дні. І ўсе гэтыя святы мы павінны замачыць. Але чаму няма дня алкаголіка? Нашага ж брата ў краіне хапае. Думаю, больш, чым фізкультурнікаў, паляўнічых і рыбаловаў разам узятых. Крыўдна!

Скажу больш: настаў час і для нас уводзіць ганаровыя званні, як гэта зроблена ў многіх іншых сферах жыцця і дзейнасці. Напрыклад, заслужаны алкаголік, лепшы п'яніца года. Не думайце, у нас таксама ёсць чым ганарыцца. Алкаголікі-ветэраны выпілі за сваё жыццё столькі спіртнога, што ім можна было б запоўніць гарадскі басейн.

Не скажу, нейкі клопат пра нас грамадства ўсё ж выказвае. Мы маем магчымасць час ад часу адпачыць у медыцынскай установе, і там паправіць сваё здароўе. Але як гэта ўстанова называецца? Страх вымавіць — наркалагічнае аддзяленне бальніцы! Мне ўчастковы нядаўна кажа:

— Не крыўдуй, але цябе ўласная жонка здала ў наркалагічнае аддзяленне. Так што разбірайся з ёй.

Разбяруся!.. Няхай толькі выйду адсюль. У мяне ныркі не баляць, сэрца таксама ў парадку, печань алкаголь прапускае нібыта сырадой. Дык навошта мне тая бальніца?

Ну, калі на тое пайшло, то я паляжаць тут згодны. Нічога шкоднага для здароўя ў гэтым няма. Прырода цудоўная, што зімой, што летам: шмат дрэў, цішыня, сажалка побач. Але як падумаю, што гэта наркалагічнае аддзяленне!.. Хоць назвалі б якнебудзь хараша, паэтычна. Напрыклад, пансіянат "На траіх", санаторый "Запойны". А так чорт ведае што.

Прырода прыродай, але якія палаты? Ніякага камфорту, скажу я вам. Адзін мой знаёмы ледзь ноч тут пераначаваў, а на досвітку ўцёк проста з-пад капельніцы і пешшу дамоў дыбаў пятнаццаць кіламетраў. А што за дзіва? У палатах ляжаць амаль што алкаголік на алкаголіку, як салдаты ў казарме. Няўтульна, цёмна і сумна. Ні за што не скажаш, што тут адпачываюць заслужаныя людзі.

Ну, яшчэ нічога, калі чалавек трапляе сюды па сваёй волі (чытай дурасці), а калі па жончыным даносе, як я?! З намі доктар кожны тыдзень сход праводзіць. Традыцыя такая. І, акрамя нас, сюды прыходзяць такія алкаголікі, якія "завязалі", так бы мовіць, алкаголікі ў адстаўцы. Памытыя, прычэсаныя, важныя. Ганарацца тым, што яны ўжо адракліся ад пляшкі. Я такіх цярпець не магу. Як Пуцін казаў, мачыў бы іх нават у туалеце. Здраднікі!

Я дык не! Сем разоў лячыўся, пяць разоў кадзіраваўся — і хоць бы што! Мая прыходзіла нядаўна адведваць. Я і гутарыць з ёй спачатку не хацеў, але чорт цябе бяры, думаю, дома высветлім адносіны. Дык казала, што цяпер па-новаму кадзіруюць. Неяк токам па мазгах б'юць. Угаворвае, каб і я на такое згадзіўся. Во да чаго дадумаліся! І гэта заслужаных людзей, гонар нацыі! Наперад не заглядваюць ні на дзень, пра жыццё не думаюць. Электрычнасць каштуе шалёныя грошы. Хутка лямпачкі гарэць перастануць, а яны на што электраэнергію расходуюць? Алкаголікаў па мазгах б'юць! Крыўдна, спадарства, крыўдна!

**Па просьбе Міхася ЗАПОЙСКАГА да друку падрыхтавала Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

О ТОМ, ЧТО ВОЛНУЕТ

# Трудовые пенсии увеличат только в августе

*Об этом официально стало известно 30 апреля, когда министр труда и социальной защиты* ***Антонина МОРЕВА*** *ответила на вопрос депутата Палаты представителей* ***Владимира ПАРФЕНОВИЧА.*** *В этот день представители правительства пришли на совместное заседание обеих палат Национального собрания Беларуси.*

Трехкратный олимпийский чемпион Владимир Парфенович в нынешней Палате представителей — один из самых активнейших ее депутатов. Похоже, что упорство и настойчивость, которые помогли ему достичь наивысших в мире спорта трофеев, и теперь не изменяют Владимиру Владимировичу. Он глубоко изучает социальную сферу, вникает во все ее тонкости и пытается помочь избирателям. И не только своего округа.

В правительство депутат направил такой запрос: *"Когда пенсии будут увеличены до размера, достаточного для обеспечения полноценного питания и лечения, чтобы пенсионеры не выбирали между буханкой хлеба, пакетом молока и необходимым лекарством?"*

Министр Антонина Морева предварительно дала депутату Владимиру Парфеновичу следующий письменный ответ (он цитируется полностью): *"Правительством уделяется особое внимание повышению уровня пенсионного обеспечения.*

*В 2001 году средний размер пенсий увеличился на 118,6%, в 2002 — на 52%, в 2003 — на 29,4.*

*С 1 февраля 2004 года в республике произведен перерасчет трудовых пенсий в связи с ростом средней заработной платы рабочих и служащих и перерасчет минимальных и социальных пенсий, а также надбавок и повышений к пенсиям в связи с увеличением бюджета прожиточного минимума. В результате в феврале 2004 года размеры пенсий увеличились в среднем на 17,4%. Размер средней пенсии по возрасту составляет 140 тысяч рублей.*

*Обеспечен рост реального содержания пенсий по сравнению с январем 2004 года на 15,3%.*

*До конца 2004 года ожидается увеличение средней пенсии по возрасту на 29,1—37,2%, а минимальной — на 14,8—19,8%. При этом среднемесячный размер пенсии по возрасту составит 139,3—148 тысяч рублей, минимальный размер пенсии по возрасту — 85,2—88,9 тысяч рублей.*

*Следует иметь в виду, что показатели, характеризующие уровень пенсий, в Беларуси выше, чем в других государствах СНГ. Так, средняя трудовая пенсия по отношению к средней заработной плате в республике и бюджету прожиточного минимума пенсионера в 2003 году составила, соответственно, 41 и 115%, а, например, в России — 31 и 101%.*

*Вместе с тем состояние экономики не позволяет в настоящее время обеспечить более высокий уровень пенсий".*

А на упомянутом заседании Национального собрания министр ответила депутату еще и устно. Тогда-то она и сказала, что **рост трудовых пенсий надо ожидать только в августе.** Антонина Морева также добавила, что в Программе социально-экономического развития Беларуси в 2005 году предполагается, что так называемый коэффициент замещения или соотношение средней пенсии и средней заработнай платы составит 48%. По ее словам, выйти на такой уровень очень и очень сложно. В этом году такой коэффициент должен составить 43%, но в первом квартале он был даже 45,4%.

После заседания депутат Парфенович сказал мне, что ответ министра оставил у него двоякое чувство. С одной стороны, Антонина Морева — один из немногих министров, которая в диалоге с парламентом не скрывает истинного положения дел и честно обрисовывает ситуацию. В частности, она фактически признает, что дела в экономике не столь хороши, как пытаются представить их высшие государственные лица. *"С другой стороны, ее ответ не может меня удовлетворить,* — говорит Владимир Парфенович. — *Разве пенсионеры, которые честно проработали всю свою жизнь, виноваты в том, что у них теперь такой низкий уровень жизни?"*

*"Однако, Владимир Владимирович,* — сказал я депутату Парфеновичу, — *премьер-министр Сергей Сидорский, который тремя днями ранее представлял в Национальном собрании экономическую программу своего правительства, так и сыпал многочисленными цифрами, которые свидетельствуют о том, что Беларусь переживает отнюдь не спад, а расцвет своей экономики. По меньшей мере, по его словам, все основные показатели первого квартала выполнены и перевыполнены. Как же так?"*

*"На Ваш вопрос я отвечу так: Вы, как и все, кто был в Овальном зале или пресс-центре, слышали выступление вице-премьера Романа Внучко. Послушаешь его, так даже в аграрном комплексе у нас тоже достижение на достижении: и удои растут и привесы... Но стоило вице-премьеру отойти от заготовленного текста, как тут же появились 1400 убыточных хозяйств, это больше за 60% всех существующих в стране. О чем после этого говорить?! На мой взгляд, это какое-то манипулирование цифрами, для того чтобы выдать желаемое за действительное".*

Насколько желаемое может согласоваться с действительным, свидетельствуют и такие цифры. Согласно Программе социально-экономического развития, в 2005 году средняя зарплата должна составить порядка 250 американских долларов. Следовательно, с учетом коэффициента замещения средняя пенсия уже в будущем году должна выйти на уровень 118—120 долларов. Сейчас же она порядка 70 долларов. Пожалуй, трудно найти в стране человека, который поверит в реальность намеченного.

А я бы хотел обратить внимание на три цифры, характеризующие рост пенсий, которые приводит в своем официальном ответе министр Морева. В 2001 году, когда в Беларуси проводились президентские выборы и Александру Лукашенко позарез нужны были голоса пенсионеров, ветеранам увеличили их пособие более чем в два раза — на 118,6%. В 2002 и 2003 годах, когда ни выборов, ни референдумов уже не проводилось, пенсии росли куда более медленными темпами — соответственно, на 52% и 29,4%. Словом, ветеранов изрядно облапошили. И, возможно, поделом. Пусть следующий раз слушают не соловьев-баюнов с их выполнением и перевыполнением, а собственных детей и внуков. Тогда и пенсии будут под стать уровню цен.

И последнее. Возможно, кое-кто из читателей "Народной воли" скажет, что он слышал о том, что с 1 мая пенсии повышаются. Но он будет прав лишь отчасти, ибо с 1 мая возросли только, да и то всего на 5%, размеры **минимальных и социальных пенсий, а также некоторых надбавок.** В лучшем случае эти крохи получат порядка трети пенсионеров. А двум третям, увы, надо ждать до августа.

**Владимир ГЛОД.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Дыпламаты абараняюць Марыніча

***Паслы краін — членаў Еўрасаюза і амбасада Злучаных Штатаў Амерыкі выступілі з заявамі з нагоды затрымання Міхаіла Марыніча***

Амбасада Злучаных Штатаў Амерыкі і кіраўнікі дыпламатычных місій 11 краін — членаў Еўрасаюза выказваюць занепакоенасць нядаўнім арыштам былога міністра беларускага ўрада і пасла Міхаіла Марыніча.

*"У час станаўлення дэмакратыі на Беларусі і з улікам маючых адбыцца ў гэтым годзе важных парламенцкіх выбараў арышт Марыніча — актыўнага і адкрытага ўдзельніка палітычных падзей на Беларусі — стварае атмасферу, якая можа паставіць пад сумнеў намер беларускага кіраўніцтва і беларускіх уладаў правесці палітычныя дэбаты і выбары ў свабодных і справядлівых умовах, без выкарыстання пагроз і запалохвання тых палітыкаў, што выказваюць іншыя погляды. Гісторыя пацвердзіла залежнасць стабільнасці ад здольнасці ўрада абараняць і паважаць правы і свабоды грамадзян. Мы заклікаем беларускія ўлады, асабліва іх праваахоўныя і судовыя органы, да захавання законных правоў і свабод сп. Марыніча і ўсіх беларусаў".*

Дыпламаты таксама нагадалі беларускім уладам, што *"змяншэнне страху ў грамадстве застаецца адным з галоўных крокаў, да якіх Парламенцкая тройка АБСЕ працягвае заклікаць Беларусь дзеля адпавядання краіны сваім абавязацельствам перад АБСЕ".* Справядлівае завяршэнне справы Марыніча і скасаванне пераследаванняў няўрадавых арганізацый, сярод якіх Беларускі Хельсінкскі Камітэт і незалежныя сродкі масавай інфармацыі, зменшаць гэты страх і прадэманструюць намер беларускіх уладаў палепшыць адносіны са Злучанымі Штатамі і краінамі — членамі Еўрасаюза, — сцвярджаюць дыпламаты.

*"Мы будзем вітаць і імкнуцца станоўча адказаць на такі сігнал",* — гаворыцца ў заявах амбасады Злучаных Штатаў Амерыкі і кіраўнікоў дыпмісій краін — членаў Еўрасаюза.

ПАЗІЦЫЯ

# А чаму не «Жыве Беларусь»?

Тая навіна ўдарыла мяне ў сэрца: нейкія падлеткі, мае равеснікі, учынілі здзек над памяццю адданага сына Беларусі, некалі такога ж падлетка — былога юнага партызана, а затым знанага пісьменніка Алеся Адамовіча. Выпадковасць?

Калі дарослы дзядзька з тэлеэкрана хоча пераканаць мяне (ды і ўсіх гледачоў), быццам фашысцкай свастыкай "упрыгожылі" дом Алеся Адамавіча "проста так" звычайныя свавольнікі, не разумеючы, што робяць, дык адразу ж паўстае пытанне: чаму гэтыя "мастакі", трапіўшы ў дом-музей змагара з фашызмам, не напісалі на сцяне "Жыве Беларусь!" або не намалявалі хрысціянскі крыж?

Я разумею так: падлеткі-хуліганы проста апынуліся крайнімі ў бясконцым ланцугу зняваг чыноўніцтва да ўсяго, што дорага патрыётам краіны — да нашай гісторыі, даўняй і нядаўняй, яе выдатных творцаў, носьбітаў нацыянальнай ідэі.

Апошнім часам мне выпадае бываць за межамі Беларусі і бачыць: землякі, што апынуліся на чужыне, праяўляюць вялікую цікавасць да нашага сённяшняга жыцця. Цікавая дэталь: яны нас распытваюць аб усім па-беларуску, а мы... (вы здагадаліся) часцей адказваем на мове суседняй дзяржавы. І амаль заўсёды ў Польшчы, Літве, Латвіі адно пытанне: чаму ж мы, беларусы, у сябе дома дапусцілі, каб родная мова не гучала паўсюдна, каб ёю грэбавалі на самым высокім узроўні?. І заўсёды, гледзячы ў вочы суразмоўцаў, адчуваю сябе асабіста вінаватым за тое, што адбываецца на маёй зямлі, хаця сам глыбока шаную і родную зямлю, і яе мову.

...Лета мінулага года. Іду па святочнай Вільні, яна ўрачыста святкуе дзень каранацыі Міндоўга. Літва святкуе, у Літву на вялікае гістарычнае свята прыехалі дэлегацыі з усяго свету. І я іду ў шматлюднай калоне і радуюся за суседзяў, а душу свідруе: Божа, чаму такое велічнае свята не ў нашым Навагрудку, дзе і дагэтуль стаяць рэшткі муроў Міндоўга? А чаму сёлетні 2004 год не аб'яўлены ў Беларусі годам Вялікага Кастуся Каліноўскага? Наш вялікі нацыянальны герой ў 26 год узышоў на шыбеніцу за любоў да Бацькаўшчыны, а дзяржава зрабіла выгляд, што і не заўважыла 140 угодкаў з дня пакарання смерцю самаахвярнага змагара за Беларусь.

Чаму дырэктар школы ў Паставах, не ведаю — па ўласным неразуменні ці каб выслужыцца перад вертыкаллю, — паэту Генадзю Бураўкіну не дазволіў сустрэцца са старшакласнікамі? Што — паэзія такая небяспечная рэч? Бадай што, але толькі для тых, хто яе не разумее, а таму баіцца і, напэўна, выпускае сваіх выхаванцаў у жыццё такімі ж глухімі да характва і праўды. А можа, і тыя падшыванцы з пасёлка Глуша — аматары маляваць свастыку — з сапраўдным настаўнікам у жыцці не сустрэліся, не адчулі праўды і характва мастацкага слова, павагі да майстроў літаратуры?

Можа, я занадта ўжо максімаліст, як і "паложана" ў маім узросце, але не магу не зважаць: на жаль, нават некаторыя з інтэлігентаў, хто сам быццам дбае аб нашай мове і культуры, чамусьці хочацца, каб іх дзеці атрымалі адукацыю за мяжой і там уладкоўвалі сваё жыццё. І гэтыя дзеці старанна вывучаюць ангельскую ці іншую замежную (я сам яе вучу), але пра родную і не ўзгадваюць.

Калі не маем павагі да сябе, то трацім годнасць чалавечую і церпім тое, з чым немагчыма мірыцца. Вось вам і зняважаны і абрабаваны музей Алеся Адамавіча, вось вам ізноў спілаваныя крыжы ў Курапатах. Духоўны Чарнобыль... І тут ужо мы самі вінаваты — і старэйшыя, і маладыя. Я народжаны ў дзень страшнай чарнобыльскай катастрофы і бараню сябе больш за ўсё ад духоўнай радыяцыі і нявер'я ў светлы лёс Бацькаўшчыны, які ў многім ад нас, сённяшняй моладзі, залежыць.

*Калі газета мае магчымасць выплаціць мне нейкі ганарар, то прашу пералічыць грошы на падтрымку музея Алеся Адамовіча ў пасёлак Глуша. Дарэчы, у мяне ёсць ў добрым стане радыёпрыёмнік "Родина" і патэфонны апарат. Калі музею патрэбны гэтыя рэчы, то са мною можна звязацца па тэлефоне, які ёсць у рэдакцыі.*

**З павагай —**

**Алесь ЛАПЦІК, старшакласнік.**

*Мінск.*

Народная Воля
11 МАЯ 2004 г.

# Здравствуй, баскетбол... на инвалидных колясках!

*В Беларуси этот вид спорта начал развиваться примерно два года назад благодаря тому, что в Минске появился Лечебно-реабилитационный комплекс Белорусского протезно-ортопедического восстановительного центра. Генеральный директор Центра И.Н.Волков дал возможность инвалидам-колясочникам, желающим заниматься баскетболом, посещать спортзал два раза в неделю по три часа, причем совершенно бесплатно. Кроме этого, баскетболисты получили в пользование и 20 спортивных колясок. Как же родилась идея баскетбола на колясках у минской команды? Об этом рассказывает один из игроков минской команды по баскетболу на колясках* **Валентин ДРОЗД.**

— В 1997 году Белорусское общество инвалидов совместно со шведской организацией "Рекрітерінгс Группен" проводило так называемый лагерь активной реабилитации, где в течение 10 дней около 20 инструкторов-колясочников обучали курсантов-колясочников, например, тому, как переехать бордюр, обсуждались вопросы профилактики специфических заболеваний и все те проблемы, с которыми ежедневно сталкивается инвалид-колясочник. Шведы привезли для нас коляски, которые по качеству на порядок выше тех, которые выпускают у нас (на наших-то и на бордюр подняться невозможно — они раза в три тяжелее).

Собираясь вместе, мы стали задумываться: куда же нам деваться? где и как себя применить? И тут появился Лечебно-реабилитационный комплекс. Мы наших друзей-шведов устроили по нему экскурсию. Они были в восторге, но сильно удивились: у вас есть такой замечательный комплекс, а вы даже в баскетбол не играете! На что И.Н.Волков сказал: "Да запросто! Приходите, ребята!"

Мы очень загорелись этой идеей и быстренько организовались. Так что, можно сказать, если бы не шведы — не играли бы мы сейчас в баскетбол. Спасибо им за идею!

**— И на этом помощь Волкова заканчивается?**

— Нет, что вы! Он еще много хорошего сделал для нас. Например, в ноябре прошлого года спонсировал поездку в Санкт-Петербург на V Открытый международный турнир по баскетболу на колясках памяти депутата законодательного собрания Санкт-Петербурга В.С.Новоселова. А это немалые деньги: четыре дня проживания в гостинице, питание, транспорт, дорога... Опять же коляски дал с собой. А на турнир съездить было полезно: посмотреть, как играют другие команды и оценить свои возможности и шансы.

**— Так вы уже вместе в бой на международном уровне?**

— Конечно. Мы посмотрели, что у нас есть абсолютно реальные шансы конкурировать с другими командами и выступать за границей. Кстати, после первого чемпионата Беларуси по баскетболу на колясках наша команда участвовала в международных турнирах в Польше и России. Так что опыт у нас уже есть.

Я считаю, что в спортивном плане мы перспективные. Правда, в техническом — немного не на уровне: коляски, на которых мы играем, не для большого спорта. В Питере нам сказали, что играть-то мы умеем, но... на этих колясках даже и думать нечего о профессиональной игре. А нормальные спортивные коляски стоят приличные деньги — 1.500—2.000 долларов США. А где их взять?

**— У вашей команды наверняка есть какой-то спонсор?**

— Что вы! Все сами, с Божьей помощью да с помощью хороших людей. Мы очень благодарны и Волкову, и Белорусской баскетбольной федерации, и фирме "Открытый контакт", которые нам помогают. Но... У нас даже тренер Сергей Мелешко выполняет свои функции за "спасибо". Он работает в Академии физической культуры, но, я думаю, правильно было бы оплачивать его тренерскую работу в нашей команде. Были разговоры о том, чтобы взять его инструктором в ЛРК хотя бы на полставки, но все это заглохло...

Правда, мы слышали, что существует некая международная программа по развитию новых видов спорта, и наша страна, в лице Министерства спорта и туризма, также принимает в нем участие. Было бы здорово, если бы это ведомство обратило на нас внимание.

Хочу отметить, что наша команда является *единственной* в Беларуси спортивной организацией, которая собирает такое количество единомышленников. И это еще не предел, т.к. наш баскетбол привлекает все больше людей. Я считаю, что нас стоит поддержать. Вложение в нас денег — дело выгодное. Если бы нами вплотную занялся какой-то спонсор, который довел бы нас до международного уровня, то он бы не прогадал — и нам бы помог, и имя бы сделал, и прибыль поимел. Будет очень обидно, если все заглохнет из-за отсутствия поддержки, в которой мы очень нуждаемся.

**Наталья ГУСЕВА.**





### Справка "Народной воли":

*Официальной датой рождения баскетбола на колясках как вида спорта считается 1949 год, когда студенты университета штата Иллинойс (США) под руководством Тима Нюдженга (директора восстановительного центра) разработали правила игры в баскетбол на колясках. Еще раньше, начиная с 1945 года, бывшие баскетболисты, получившие серьезные увечья во время Второй мировой войны, начали играть в "свой" баскетбол, не желая расставаться с любимой игрой.*

*Сейчас в него играют более чем в 80 странах, а Международная федерация баскетбола на инвалидных колясках проводит официальные соревнования.*

## Як у Турцыі ахоўваюць Аляксандру і Канстанціна

Беларускія ўдзельнікі міжнароднага конкурсу "Еўрабачанне-2004" — дуэт "Аляксандра і Канстанцін" — правялі ў Стамбуле (Турцыя) некалькі рэпетыцый. Нагадаем, што паўфінал конкурсу, у якім возьмуць удзел беларусы, адбудзецца 12 мая, а 15 мая пройдзе фінал.

Да беларускай дэлегацыі прыстаўлена ўзмоцненая ахова. Разам з імі пастаянна знаходзяцца дзевяць прадстаўнікоў службы бяспекі Турцыі на чале з камісарам на дзвюх паліцэйскіх машынах. Свабоднае перамяшчэнне членаў дэлегацыі па горадзе забаронена.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## СПОРТ-ЭКСПРЕСС

На теннисном турнире в Риме, призовой фонд которого составляет 2.425.500 долларов, белорусский теннисист Максим Мирный в паре с индийцем Махешем Бухпати выиграл в финале у австралийских спортсменов Уэйна Артурса и По Хэнли в трех сетах — 2:6, 6:3, 6:4.

***

На первом этапе велогонки Джиро Д'Италия белорусский спортсмен Александр Усов занял 10-е место.

***

На этапе Кубка мира по академической гребле в Познани (Польша) белорусская мужская четверка в составе Валерия Родевича, Павла Шурмеля, Андрея Плешкова и Станислава Щербачени заняла второе место. Женская восьмерка — Беларусь-1 заняла третье место. В соревнованиях участвовали четыре команды.

***

На чемпионате Европы по водным видам спорта в дисциплине синхронное плавание белоруска Кристина Маркович в сольном выступлении заняла 11-е место, а в дуэте с Анастасией Власенко у белорусок 8-е место.

Там же в прыжках с 10-метровой вышки белорусский дуэт Александр Варламов/Андрей Мамонтов занял 4-е место.

***

В Чехии завершился чемпионат мира по хоккею с шайбой в элитном дивизионе. Чемпионами стали канадцы, которые в финале выиграли у сборной Швеции — 5:3, а в матче за бронзовые медали сборная США по буллитам выиграла у команды Словакии — 4:2.



**11 май**

**АЎТОРАК**
Усх. 5.14 Зах. 21.00
Даўж. дня 5.46
Апошняя квадра ў 14.05

**110 гадоў** з дня нараджэння С.Г. Булата (1894—1921), беларускага дзяржаўнага і партыйнага дзеяча, журналіста

**105 гадоў** з дня нараджэння Г.П. Глебава (сапр. Сахонь) (1899—1967), беларускага акцёра, народнага артыста БССР і СССР

**75 гадоў** з дня нараджэння Д.І. Алейніка, беларускага жывапісца



## РЭГІЁН

## Як піцерцам аршанскі сыр падарылі

Аказваецца, бясплатны сыр бывае не толькі ў мышалоўцы. Больш за год без грашовых выдаткаў гандлявала прадукцыяй Аршанскага сырзавода санкт-пецярбургская фірма "Амега", якая ў кастрычніку 2002 года атрымала з Оршы высакаякасныя вырабы з адборнага малака на 2 мільёны расійскіх рублёў, але нават ужо сёлета не спяшалася разлічыцца за адгружаны з Віцебшчыны тавар, завінаваціўшы пастаўшчыку каля мільёна расійскіх рублёў без уліку працэнтаў за індэксацыю і штрафу за пратэрміноўку плацяжу.

Паводле заключэння спецыялістаў Віцебскага абласнога Камітэта дзяржкантролю, несанкцыянаванае перавышэнне тэрмінаў правядзення знешнегандлёвых аперацый склала 377 дзён.

Кантралёры таксама выявілі на сырзаводзе парушэнне заканадаўства ў галіне цэнаўтварэння. Пры разліку цэнаў на сыр у ягоны сабекошт уключаліся выдаткі на аплату электраэнергіі па ўдвая завышаных нормах, што прывяло да атрымання каля мільёна рублёў неабгрунтаванай выручкі.

Гэтыя ды іншыя парушэнні законаў абярнуліся для прадпрыемства і шэрагу адказных яго работнікаў адчувальнымі штрафнымі санкцыямі.

## Дзеці вучацца ў дарослых... п'янству

Пракуратура Віцебскай вобласці б'е трывогу з прычыны ўсё больш хуткага распаўсюджвання п'янства сярод моладзі, што, у сваю чаргу, з'яўляецца моцным стымулам злачыннасці.

Штогод на Віцебшчыне супрацоўнікі міліцыі затрымліваюць не менш за 5 тысяч непаўналетніх у нецвярозным выглядзе. Кожнае чацвёртае злачынства здзяйсняецца маладымі людзьмі пасля ўжывання імі спіртнога. Самае ж страшнае, што побач з п'янымі дарослымі закон парушаюць нецвярозыя дзеці.

На ўліку ў псіханеўралагічным дыспансеры знаходзяцца 1766 непаўналетніх п'яніц, 18 хранічных алкаголікаў дзіцячага ўзросту, 47 непаўналетніх таксікаманаў і наркаманаў. 30 падлеткаў хварэюць на сіфіліс, больш за 50 — на іншыя венерычныя хваробы. Усе яны да таго ж злоўжываюць алкаголем.

Але гэтая статыстыка — толькі верхняя, афіцыйная частка небяспечнага "айсберга", які рушыць таранам на цвярозае і законапаслухмянае грамадства. На справе кожную са згаданых лічбаў трэба памножыць як мінімум на тры.

Летась па віне п'яных падлеткаў у вобласці адбылося каля 1300 злачынстваў — на 23% больш, чым у папярэднім годзе. Няма ніякіх высноў спадзявацца, што сёлета дынаміка росту не паўторыцца.

Палова ўсіх дзіцячых злачынстваў здзяйсняецца групамі, а лепш бы мовіць — зграямі, дзе лідэрамі нярэдка з'яўляюцца паўналетнія або зусім дарослыя людзі.

Кожнае трэцяе злачынства робіцца тымі, хто нідзе не працуе і не вучыцца. Больш за 10% злачынстваў — крадзяжы прадуктаў харчавання або нечага падобнага — ад бульбы да жывых гусей.

І гэта не дзіўна, бо ў многіх сем'ях дзецям няма чаго есці: бацькі хутчэй аддадуць грошы на гарэлку, чым на хлеб.

Нездарма толькі за адзін мінулы год больш за 600 жыхароў Віцебшчыны пазбаўлены бацькоўскіх правоў, 1149 чалавек прыцягнуты да крымінальнай адказнасці за ўхіленне ад аліментаў, больш за 500 нядбайных бацькоў знаходзяцца ў вышуку.

Яблык ад яблыні недалёка падае. У п'яніц бацькоў растуць дзеці — алкаголікі, заўжды гатовыя на злачынствы дзеля выпіўкі.

Адным з найбольш "алкагенных" рэгёнаў у вобласці з'яўляецца Талачын, дзе міліцыя не ведае, як змагацца з п'янымі хуліганамі і дэбашырамі, бо выцвярэзнік у райцэнтры ліквідавалі з-за стратнасці. Невыпадкова ў раёне 66 чалавек памерлі ад перапою, 22 у нецвярозым стане скончылі жыццём самагубствам, 33 чалавекі былі дастаўлены ў бальніцу з алкагольнымі атручэннямі.

І гэта становішча тыповае для многіх раённых цэнтраў Віцебшчыны.

## Замест гаражоў — руіны

Выбухамі, падобнымі на ваенныя, страсянуўся напярэдадні свята Перамогі віцебскі мікрараён вуліцы Воінаў-інтэрнацыяналістаў, што на поўдні горада. Яшчэ страшней стала жыхарам шматпавярховак тады, калі неўзабаве пасля выбухаў неба асвяцілася пажарышчам.

Следства ў сувязі з надзвычайным выпадкам працягваецца, але ўжо вядома, што ў выніку пажару знішчана частка гаражнабудаўнічага кааперытыву № 16.

У адным з боксаў ГБК, размешчаных у двух ярусах, захоўвалася шмат гаручага ў пластыкавым посудзе, пры пераліванні якога, магчыма, утварыўся разрад статычнай электрычнасці, што і выклікала выбух бензіну і моцны пажар.

Знішчана восем асобных гаражоў разам з чатырма аўтамашынамі, яшчэ тры гаражы пашкоджаны.

Пацярпелі і гаспадары гаражоў. Адзін чалавек дадстаўлены ў бальніцу з апёкамі 95-ці працэнтаў цела. А назаўтра пры разборцы руін знойдзены труп уладальніка суседняга гаража.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## НА ЖЫЦЦЁВЫХ СКРЫЖАВАННЯХ

# Міхаліна

Медсястра зайшла ў палату і выключыла святло:

— Пара спаць, бабачкі.

— Надта ж яшчэ не хочацца, — прамовіла старая Міхаліна, зручней падмошчваючы пад галаву падушку.

— Гэта табе перад дарогай, галубка, не спіцца. Па сабе ведаю. — Бабка Кружыліна таксама, відаць, не збіралася спаць. Яна села на ложку і наважылася пагаварыць.

— Добрая ў цябе ўнучка, пашукаць такіх. Гэта ж во прыехала з далечыні і з сабой забірае. Цяпер не надта бяруць старых. Ды і прыгожая надзвычай. Як зайшла ў палату першы раз, дык я падумала, што якая генеральша. Разадзета з галавы да ног, а беднасцю нашай не ганьбуе. Багата, відаць, жыве? — спытала з цікавасцю.

— Напэўна, — ціхенька абазвалася Міхаліна.

— Напэўна-на, — перадражніла яе Кружыліна. Не ведаеш, хіба, як твая ўнучка жыве? Казаць не хочаш...

— І не ведаю. Яна ж здалёк прыехала, а я тут...

У суседняй палаце нехта моцна застагнаў, і жанчыны доўга ляжалі ў задуменні. Раптам у цемры пачулася ціхае ўсхліпванне. Плакала старая Міхаліна.

— Ну чаго ж ты? Можа, я пакрыўдзіла сваімі словамі, то даруй.

— Ой, не, мая ж ты пташачка. Я сама сябе пакрыўдзіла. Грэх на мне, бабачкі, вялікі грэх...

Мы ні пра што не распытвалі. А яна, выплакаўшыся, пачала сваю горкую споведзь.

— Наташа ж мне не ўнучка зусім. У майго сына з нявесткай не было дзяцей. То сын не вельмі бедаваў па гэтым, а нявестка проста змарнела ўся. Лячылася яна ў дактароў, да знахароў ездзіла, а карысці ніякай.

Жылі мы тады адной сям'ёй. Стары мой памёр, дык мы ўтраіх засталіся. Добрая была нявестка, не скажу, але любіла, каб па яе было. Аднойчы пасля вячэры яна прыбрала посуд, падсела да стала і кажа:

— Трэба ўзяць з дзіцячага дома дзяўчынку. Будзе нам за дачушку. Сваіх дзяцей, відаць, не прычакаемся.

— Як хочаш, — лагодна адазваўся мой сын.

А я ўскіпела:

— Што гэта значыць, як хочаш? Яна, можа, невядома чаго захоча, а ты ўсё будзеш патураць? Каб ніякага дзіцяці, чуеце? Няма свайго, то і чужога не трэба. Або яно хіліцца да вас будзе. Вядома ж, чужая кроў.

— Вашым розумам жыць не збіраюся, — не засталася ў даўгу нявестка. — Як вырашыла, так і зраблю.

— Рабі! — кажу. — А я хату адпішу на дачку з зяцем. Мая хата, як захачу, так і распараджуся.

— Дык у іх жа ёсць свой дом, — здзівіўся маім словам сын.

— Ёсць і яшчэ адзін будзе. А вы з гэтым сваім дзіцем ідзіце куды хочаце.

З таго вечара паміж мной і імі нібы кошка прабегла: не віталіся, не гаварылі. Я думала, можа, апамятаюцца, не будуць браць таго дзіцяці. Ажно не. Аднойчы вечарам прыехалі яны адкуль і прывезлі з сабой маленькае кволае дзеўчанё. Валасы светленькія, як кудзеля, а сама худзенькая. Толькі вочы вялікія, як сподачкі, з-пад лобіка зыркаюць.

— Дамаглася-такі свайго, — кажу.

Нявестка не адазвалася.

Назаўтра раніцай я пайшла да натарыуса і адпісала хату на дачку з зяцем. Даведаўшыся пра гэта, сын з нявесткай селі ў машыну і паехалі да яе бацькоў параіцца, што рабіць. Малую ў суседзяў пакінулі. Яшчэ Бог стаяў над гэтым дзіцём, бо такое горачка здарылася тады, такое горачка! — Міхаліна зноў усхліпнула. — Ці сын быў надта знерваваны і не ўбачыў таго трактара, што выехаў з бакавой дарогі, ці слізка вельмі было... Словам, на месцы смерць атрымалі. І ён, і яна. Галасіла я, валасы на галаве рвала, а што ўжо зробіш... І засталося тое дзіцянятка, каласок кволенькі, круглай сіратой. Са мной жыла, у школу пачала ўжо хадзіць. Вучылася надта добра. І такая лагодная была, такая душэўная. А разумная якая! Іншы дарослы таго не разумеў, што яна ў свае маленькія гадочкі. Так мы і жылі. Не збіралася я яе нікуды аддаваць, каб не дачка з зяцем. Прыйшлі аднойчы і заявілі:

— Пойдзеш, маці, да нас жыць, бо хату гэту мы будзем прадаваць. Купец знайшоўся, добрыя грошы дае.

— Ці вы не здурнелі? — кажу, а ў самой ногі трасуцца, слабасць нейкая па ўсім целе разлілася, сэрца зараз спыніцца.

— Не здурнелі, — зяць упэўненым крокам хадзіў па пакоі і пад яго грузным целам скрыпела падлога. — Хата ж наша, так што як захочам, так і зробім.

— А з ёй жа што будзе? — кіўнула я на дзяўчынку, што ціхай мышкай затаілася ў куточку.

— А што з ёй? — хмыкнуў зяць. — У дзіцячы дом пойдзе, адкуль і прыйшла. Сама ж казала: чужая кроў. Я сваіх дзяцей не маю, і чужых гадаваць не буду. Не патрэбны яны мне.

Дзяцей у дачкі не было па віне зяця, таму ён ставіўся да гэтага спакойна. А што яшчэ рабіць заставалася?

Неўзабаве малышку афармілі ў дзіцячы дом, мае рэчы перавезлі да дачкі, а ў родную хату засяліліся зусім чужыя людзі. Я па той вуліцы доўгі час хадзіць не магла, думала, сэрца разарвецца ад болю і крыўды. Але потым змірылася.

Міналі гады. Як яшчэ мела сілу, упраўлялася па гаспадарцы, то зяць з дачкой цярпелі мяне ў сваім шыкоўным доме. А як знемагла, то ў бальніцу хуценька сплавілі. А самі і вачэй не пакажуць. Ды навошта мне тая бальніца? Што дома, што ў бальніцы — усё адно. Вось каб, здаецца, у спакоі пажыць, без касых поглядаў, без папрокаў за кавалак хлеба. А так... Хіба гэта жыццё?

— Ага, сагрэшыла ты, Міхаліна, і перад Богам, і перад людзьмі, — абазвалася бабка Кружыліна. — Таму і цярпі ў старасці. Заслужыла, галубка, ой заслужыла!

— Я і сама ведаю, — пакорліва згадзілася Міхаліна. — Але ж праўду кажуць, што Бог не без міласці, а чалавек не без шчасця. Вось ён і прыслаў мне збавенне, анёла ў вобразе Наташы.

— Залатое сэрца ў маладзіцы. Другая і ў той бок не глянула б, не тое, што цябе ў сваю сям'ю браць.

— Што ж тут спрачацца, праўду ты кажаш.

— Паслухай, а як жа яна даведалася пра твой лёс, пра тое, што табе няма месца ў родных дзяцей?

— А яна ўсе гэтыя гады перапісвалася з дачкой былой нашай суседкі. Тая, праўда, старэйшая за Наташу гадоў на дзесяць, але ж вельмі лагодная і добрая жанчына. Яна і ў дзіцячы дом да Наташы некалі ездзіла, і грошы пасылала, калі тая ў інстытут паступіла. А потым на вяселлі была. Яна, відаць, і расказала ўнучцы пра мой гаротны лёс.

— Бо сама вінавата, — усё ніяк не магла супакоіцца бабка Кружыліна. — От жа вырабіла дык вырабіла. У ногі Наташы пакланіся за дабрыню яе, чурбан стары. Каб не яна, да канца веку валяцца б табе на бальнічных ложках, на казённых пасцелях. Ды не плач ужо, што зробіш, — прамовіла лагодна, пачуўшы, што Міхаліна зноў пачала ўсхліпваць.

Больш ніхто не прамовіў ні слова.

А раніцай прыйшла Наташа. Я паступіла ў бальніцу напярэдадні вечарам, і таму бачыла яе ўпершыню. Высокая, зграбная, у шыкоўным норкавым футры яна выглядала сапраўднай прынцэсай — маладой і прыгожай. Погляд вялікіх шэрых вачэй быў ласкавым, як майскія лісточкі.

— Збірайся, бабуля. Да вакзала даедзем на таксі, а там у поезд і заўтра раніцай будзем дома.

Бачачы, што старая Міхаліна заблыталася ў сваім адзенні, яна ўмела і хутка апранула яе, завязала хустку.

— Бывайце, хутчэйшага вам усім выздараўлення, — усміхнулася нам на развітанне і, узяўшы Міхаліну пад руку, паволі пайшла з палаты.

Міхаліна ў дзвярах прыпынілася, павярнулася. Па яе маршчыністым твары цяклі слёзы. Відаць, нешта хацела сказаць, але не знайшла патрэбных слоў і толькі махнула рукой, нібы птушка падбітым крылом.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

## Вторник, 11 мая

### БТ

**07.00, 08.00, 09.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.00** Новости.
**07.05, 07.35, 08.10, 08.35** "Доброе утро, Беларусь!".
**07.30, 08.30, 19.55** "Деловая жизнь".
**Техническая профилактика с 09.05 до 15.00**
**15.10 "Самые, самые, самые".** Сериал.
**16.05** "5x5".
**17.05** "Энергетическая безопасность". Общественно-политическая программа.
**17.30 "Богатые и знаменитые".** Сериал.
**18.30** "Шпилька".
**19.10 "Сага о Форсайтах".** Сериал.
**20.00 "Семнадцать мгновений весны".** Сериал.
**21.00** "Панорама".
**21.50** "Дорога в никуда". Видеофильм.
**22.20** "Беларусь — 12 баллов". Концерт-акция в поддержку белорусских участников конкурса песни "Евровидение-2004".
**23.50** "Дорога к Евро-2004". История футбольных чемпионатов. Год 1968-й.

### ОНТ

**07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 18.00, 20.30, 23.15** "Наши новости".
**07.05** "Наше утро".
**09.05 "Нейлон 100%".** Комедия.
**10.30** "Дисней-клуб".
**15.05** "Город женщин". Телешоу.
**15.55 "Берег мечты".** Сериал.
**16.50** "Большая стирка" с Андреем Малаховым".
**18.10** "Дом". Реалити-шоу.
**19.05 "Клон".** Сериал.
**20.00** "Время".
**21.05 "Другая жизнь".** Сериал.
**22.10 "Улицы разбитых фонарей".** Сериал.
**23.30** "Не только о футболе".
**23.55** "Фабрика звезд-4".
**00.20** Максим Никулин в программе "Форганг".
**00.50** "На футболе" с Виктором Гусевым".



### РОССИЯ

**07.45 "Алхимики".** Комедия
**09.40** "В Городке".
**09.50, 23.15** "Вести. Дежурная часть".
**10.00, 16.00, 19.00** "Вести".
**10.30, 19.30** "Местное время. Вести — Москва".
**10.50** "Что хочет женщина". Ток-шоу.
**11.50** "Аншлаг".
**16.10 "Госпожа Победа".** Сериал.
**17.05 "Комиссар Рекс.** Сериал.
**18.00** "Городок". "Бизнес — класс!"
**19.50** "Спокойной ночи, малыши!"
**19.55 "Демон полдня".** Сериал.
**21.00 "Против течения".** Сериал.
**22.00** "Вести +".
**22.20** "Мой серебряный шар". Евгений Евстигнеев.
**23.30 "Облако-рай".** Худ.фильм.

### ЛАД

**06.30** EURONEWS.
**08.00, 14.00, 20.00** Новости.
**08.10** "Есть только миг...".
**08.35** Футбол. Чемпионат Италии. Дневник тура.
**09.40** "Пой, душа!". "Майские напевы".
**10.10, 18.20** "Между нами, женщинами". Тележурнал.
**10.30, 21.15 "Грешная Анхелика".** Сериал.
**11.15, 13.20** "Обычный необычный день".
**11.50 "Наотмашь".** Детектив.
**13.45** "Три дровосека". Мультфильм.
**14.10, 15.20** "Не зевай!".
**14.50 "Команда "SOS".** Сериал.
**15.30** "Бум". Тележурнал для школьников.
**16.00** "Ностальжи".
**16.30 "Был месяц май".** Худ.фильм.
**18.40 "Мама Ануш".** Комедия.
**20.15** "Колыбельная".
**20.30** "Дела семейные".
**22.05** Плавание. Чемпионат Европы. Видеообзор.

### НТВ

**09.00, 11.00, 16.00, 18.00** "Сегодня".
**09.25** "Их нравы с Дмитрием Захаровым".
**10.20** "Страна советов". Ток-шоу.
**14.35** "Принцип домино". Ток-шоу.
**16.30** "Дикий мир: борьба за выживание". "Бабуины и человек".
**17.35** "Протокол".
**18.40 "Зазубренное лезвие".** Детектив.
**21.00** "Страна и мир".
**21.35** "Красная стрела".
**21.45 "Детектив Раш".** Сериал.

### СТВ+RenTV

**06.15, 18.00** "Минщина. Люди, события, факты".
**06.25, 15.40 "Пауэр Рейнджерс, или Могучие рейнджеры в космосе".** Сериал.
**06.50** "Самый маленький гном", "Куда идет слоненок". Мультфильмы.
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50, 20.00** "СТВ-спорт".
**08.15, 23.40** "Технология".
**08.25** "Столичный футбол".
**08.55** "Добро пожаловаться...".
**09.10 "Тюряга".** Боевик.
**10.55** "Черный лев". Док.фильм.
**11.30** "Пока горит свеча".
**12.00** "Час суда".
**13.00** "Дикая планета". "Новые заповедники". Док.фильм.
**13.50, 18.30 "Инструктор".** Сериал.
**14.50 "Мятежный дух".** Сериал.
**16.00** "Гирлянды из малышей". Мультфильм.
**16.10** "Кадровый вопрос".
**16.50** "Турпоход".
**17.00 "Медики".** Сериал.
**18.15** "Телеафиша".
**20.15** "Тема дня".
**20.25** "Добрый вечер, малыш...".
**20.40** "Закон и криминал".
**20.55 "Беспокойный свидетель".** Триллер.
**23.05** "Игровой рефлекс".
**23.15** "Горячий лед".
**23.50 "Секретные материалы".** Сериал.
**00.35** "Новости СНГ".

### 8-Й КАНАЛ

**17.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**17.45 "Воры в законе".** Худ.фильм.
**19.25** "Атомик Филмз" и "К-видео" представляют...
**19.30 "Вечный зов".** Сериал.
**20.40** "Телемагазин".
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** "К-видео" — "Топ-8".
**21.10 "Быстрый и мертвый".** Вестерн.

### ТВ ЦЕНТР

**05.00, 06.30** "Настроение".
**07.35** "Газетный дождь". Обзор прессы.
**07.45 "Бравые парни".** Комедия.
**09.20** "Народные средства". Юмористическая программа.
**09.40** "Войди в свой дом".
**09.45** "Телемагазин".
**10.00, 13.00, 17.00, 21.00** "События. Время московское".
**10.15** "Дата".
**11.05** "Момент истины".
**12.00** "Доходное место".
**12.10** "Опасная зона".
**12.25** "Деловая Москва".
**13.15 "Инспектор Кресс".** Сериал.
**14.20** "Как добиться успеха".
**14.30** "Я — мама".
**15.00** "Регионы: прямая речь".
**15.30** "Формула "Д". Семейная конкурсная программа.
**16.00 "Уголовная полиция".** Сериал.
**17.15** "Очевидное-невероятное".
**18.00 "Страсти по Саломее".** Сериал.
**18.50** "Пять минут деловой Москвы".
**19.00** "Лицом к городу".
**20.00 "Приключения Шерлока Холмса".** Сериал.
**21.40** "Отдел "Х".
**22.30** "Времечко".
**23.00** "Петровка, 38".
**23.20** "25-й час. События. Время московское".
**23.45 "По закону".** Сериал.

### EUROSPORT

**09.30** Футбол. Поколение чемпионов ЕВРО-2004.
**10.00, 12.00, 12.30, 18.30, 20.30** Плавание. Чемпионат Европы в Испании.
**13.30** Футбол. Час Лиги чемпионов УЕФА.
**14.30** Футбол. Еврòголы.
**15.30, 01.15** Футбол. Планета ЕВРО-2004.
**16.00** Велогонки. Тур Италии.
**21.30, 22.00** Бокс. Международные соревнования.
**00.00** Олимпийские игры. "Цель — Афины".
**00.30** Мультиспорт. "Всякая всячина".
**01.00, 02.15** Новости "Евроспорта".
**01.45** Футбол. История чемпионата Европы.

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04.**
**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**



Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №246 ад 10 кастрычніка 1996 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на ААТ «Красная звезда», 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 27 500 экз. Заказ № 643.